ГОД ВЫДАНЬНЯ I. ЦАНА НУМАРУ 40 ГРОШЫ

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

ЦАРКОЎНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫ МЕСЯЧНІК. ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

| | | |
|---|---|---|
| 30 ТРАЎНЯ 1930 ГОДУ | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: за 1 месяц—80 гр.; за 3 мес.—2 зл. 40 гр.; 6 м.—4,50; за год—8 зл. | № 2—3 |

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Завальная 6—5.

## ЗАКЛІК ДА ПАСТЫРАЎ і ВЕРНЫХ.

Паважаныя Айцы Пастыры! Прыймеце гэты заклік у імя за нас Пацярпеўшага, Праліўшага Сваю Сьвятую Кроў Раскрыжованага Хрыста, як кліч братняе душы і думкі. Хай гэты заклік натхне Вас Хрыстовваю сілай, хай гэты заклік збудзіць у Вас магутны голас Усяпастырскае Сьвятасьці і Праўды. Дарагія і паважаныя Пастыры Беларускага Народу! Мы клічам Вас да працы, цяжкае і ахвярнае працы з намі за вызваленьне нашае Праваслаўнае Царквы на Беларусі з ярма чорнасоценска-кансысторскага ўціску. Мы Вас просім і клічам да гэтае працы ў імя Вашага ўласнага дабра. Мы жадаемо з вамі супрацоўнічаць, а не змагацца з Вамі, як гэта прадстаўляюць Вам тыя, каму і надалей дзеля сваіх уласных матэр'яльных карысьцяў хочацца трымаць Вас у ярме, кідаць Вамі, як шчап'ём, цягнуць з Вас апошнія грошы і дабытак. Айцы Пастыры! Вы павінны найлепш адчуваць гэтае закабаленьне, гэты страшны мінула-гістарычны прыгон душы і цела, які і дагэтуль з жудам і страхам успамінаецца ўсім чалавецтвам. Нідзе яго ўжо няма, толькі Вымучальнікі яшчэ яго адчуваеце, яшчэ пад ім стогнеце і канаеце. Толькі Вы адны сяньня несяцё гэтаму, ўсім чалавецтвам заклеймёнаму перажытку, бязконцую і ахвярную дань. Толькі Вы адны сяньня ня маеце свайго уласнага, сталага кутка, дабытку, шчасьця і волі. Толькі Вы! Вы, Духовыя Пастыры і Павадыры нашага Народу, з якім Вам, „Всевластной“ забаронена бліжэй зьнесьціся, зрасьціся ў вадно цела і душу забаронена, бо прыгоншчыкі баяцца, каб злучыўшыся з народам Вы не зрабіліся магутнымі, вольнымі, людзка-шчасьлівымі. Айцы Пастыры! Адклікнецеся на гэты заклік і мы Вам прыдзем на дапамогу, каб супольнымі сіламі бараніць Сьв. Праваслаўе перад тымі, хто з Вас зрабіў пад'ярэмнікаў, хто кінуў Вас і трымае пад уціскам маральным і матэр'яльным, хто нас зрабіў бунтаўшчыкамі, ворагамі царквы і дахавенства.

Айцы Пастыры! Хай наш гарачы кліч Вам будзе зарукай і запэўненьнем нашага змаганьня з чорнасоценскім кансысторскім рэжымам за Вас, за Вашае сьветлае заўтра сужыцьця з Народам!

Браты Праваслаўныя! Мы клічам і Вас да працы, да цяжкае, мазолістае працы. Сьв. праваслаўе і Вашы пастыры сяньня перажываюць цяжкія хвіліны. Хай аднак Вас гэта не застрашвае, не палохае, бо памятайце, чым чарней ночка, тым сьвітаньне хўтчэй, тым ясьней сонца зазьзяе. Вольная Беларусь павінна мець вольную, незалежную Беларускую Царкву, вольнае, незалежнае пастырства. Браты праваслаўныя! у імя гэтае волі мы Вас клічам да працы з намі і з сваімі духаўнікамі. Большасьць пастыраў Вашых душой Вам блізкае і адданае, толькі ворагі і прыгоншчыкі іх і нашыя зрабілі Вас ворагамі Вашага пастырства. А таму, браты, пастаімо за волю нашых пастыраў, каб яны вызваліўшыся, маглі зрасьціся з намі ў вадно цела і душу, маглі пастаяць і павясьці Вас за волю нашай Царквы і Айчыны. А таму, браты, Вы павінны горача запратэставаць супроць уціску нас усіх кансысторска-чорнасоценскім рэжымам, супроць рэпрэзэнтаваньня Беларускага Народу на Саборы чорнасоценскімі князямі, адвакатамі і і іншымі нашымі ворагамі, Вы павінны горача пратэставаць супроць выкіданьня нашымі ворагамі з Вашых прыходаў Вашых Пастыраў, пратэставаць супроць тых, хто змагае нашы правы, хто сілай нам накідае чорнасоценскую расейшчыну.

А таму Айцы Пастыры і Вы, браты Беларусы, супольнымі сіламі, супольным натугам змагайма тых, хто нас ізноў хоча трымаць у прыгоне і зьдзеку. А таму ў рады нашы! Працуйце з намі, закладайце свае мясцовыя Камітэты, пішэце аб усім да нас, здавальняйце нашы просьбы, здавальняйце свае правы і імя беларуса! Мы змагаемся і будзем змагацца за Вас, Вы мусіце ісьці на спатканьне нам, Вы мусіце прыйсьці нам на дапамогу, каб супольным натугам душы і цела мы вярнулі сабе ўсё тое, што мелі калісьці у прастарай, Вольнай Беларусі!

Паведамляйце нас аб жыцьці царквы, духавенства, аб жыцьці сваім, каб мы маглі на гэта абаперціся ў сваім далейшым змаганьні. Таемніца аўтараў заўсягды будзе з хавана. **Цэнтр. Бел. Пр. Камітэт.**

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ і ДУХОЎНЫЯ ВОРАГІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ.

„Да воскреснет Бог и расточатся врази Его!“

Як мы ўжо зазначылі у першым нумары „Сьветача Беларусі,“ царская расейская ўлада пакінула нам, як спадчыну, расейскае і зрусыфікаванае духавенства, аб'яднанае ў адзіную духоўную *касту*. Гэтая каста не забылася свайго ўпрывілеяванага становішча, якім яна карысталася пры цараце, і да гэтай пары моліць Бога аб павароце назад *„адзінай і недзялімай.“*

Вось гэта і будзе падставай таго, што жаданьне праваслаўных

беларусаў, каб духоўнік, які жыве на іх зямлі, карыстаецца даходамі з іх народу, вядзе духоўную працу сярод беларускага народу, стаў бы яму блізкім, а не чужаком і ворагам, як цяпер — *праваслаўнае духавенства разглядае, як спробу развалiць Праваслаўе на Беларусі.*

За ўсялякую цану расейскае і зрусыфікаванае духавенства стараецца захаваць абасобленнасьць і недапушчэньне ў сваю касту беларускага элемэнту.

Усе праваслаўныя бяз розьніцы нацыянальнасьці дамагаюцца скліканьня Усяпольскага Праваслаўнага Сабору.

Апрача агульных мэтаў: устабілізаваньня стасунку Праваслаўнае Царквы да Дзяржавы, зацьверджаньня ўнутранага ўкладу Праваслаўнае Царквы ў Польшчы і аб'яднаньня для адпору заходам Рымска-Каталіцкага Касьцёлу, які намерваецца захапіць 750 праваслаўных *Беларускіх і Украінскіх* царкоўных аб'ектаў, Беларусы і Украінцы маюць яшчэ свае асабістыя, чыста *нацыянальна-царкоўнага* характару пытаньні.

І гэтыя пытаньні павінен вырашыць Усяпольскі Праваслаўны Сабор,—бо ўсялякая барацьба, спрэчкі, непаразуменьні на нацыянальным грунце, якія пануюць цяпер у Праваслаўнай Царкве, толькі аслабляюць Яе і вядуць да ўпадку.

Як-жа падыйшла да гэтага нашая Духоўная Улада?

Вызначаныя на гэты Сабор выбары, дзякуючы сваей выбарчай ардынацыі, далі ў нас на Беларусі прадстаўнікоў—расейцаў з Р.Н.О.

Незастасаваньне да некаторых фармальнасьцяў дала магчымасьць умяшацца сьвецкай уладзе, і такім чынам выбары сяброў Сабору на эпархіяльных сабраньнях не адбыліся.

Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт у сваіх рэзолюцыях і мэморыялах дамагаўся склікаҥьня асобных прадсаборчых *эпархіяльных* сабраньняў, якія б падрыхтавалі матэр'ял на Сабор. Але дамагаўся, каб на гэтыя сабраньні былі запрошаны прадстаўнікі ад праваслаўных беларусаў.

Сьвяшч. Сынод нашую прапазыку выкарыстаў і вызначыў на 5 траўня г.г. паседжаньне Прадвыбарчага Сабраньня ў *Варшаве* з прадстаўнікоў ад усіх *эпархіяў*. На гэтае Прадвыбарчае Сабраньне ад беларускіх эпархіяў былі запрошаны *выключна расейцы* з Расейскага Нацыянальнага Аб'яднаньня (Р.Н.О.). Процiў такога складу сяброў Прадвыбарчага Сабраньня Ц.Б.П.К. злажыў свой пратэст.

Па загаду сьвецкай улады паседжаньне Сабраньня было адложана і новы тэрмін склiканьня яго яшчэ ня вызначаны.

У нас на Беларусі цэнтрам барацьбы з русыфікатарствам у Праваслаўнай Царкве зьяўляецца *Вільня*, і гэтую барацьбу вядзе *Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт па беларусізацыі Праваслаўнай Царквы.*

Каб дыскрэдытаваць самую ідэю беларусізацыі Царквы, а разам справакаваць Камітэт, чорнасоценная газэта „Наша Жизнь" павяла кампанію, як проціў Камітэту, так і проціў паасобных яго сяброў. Сама па

сабе газэціна на такую акцыю не пайшла бы, дзякуючы *інтэрнацыянальнаму* і мяшанаму вызнанёваму яе складу. Бязумоўна, інспірацыі і грошы ішлі з боку заінтэрасаваных асобаў з Віленскай Кансысторыі, і цесна зьвязаных з імі некаторых адзінак з Р.Н.О., каторыя ў захаваньні цяперашняга status quo у Праваслаўнай Царкве угледжываюць апошнюю сувязь паміж Расеяй і „Северо-Западным Краем". Звычайная бруковая газэтка, якая ледзьве дыхала адразу стала яркай барацьбіткай за Праваслаўе ў нас на Беларусі. У 6 нумарох стараліся давясьці, што Ц.П.Б.К. гэта ёсьць самазваная арганізацыя, што 11 чалавек выбралі 12, і што Камітэт „ничего не стоит."

Каб Ц. Б. П. К сапраўды быў такой непаважнай арганізацыяй, ці-ж трэба было гэта даводзіць у працягу цэлага тыдня, пішучы трохаршынныя артыкулы? Напэўна-ж, не! Для гэтага хапіла бы невялічкай газэтнай зацемкі. Ці ня крыецца тут другое??

Можа тое, што Ц. Б. П. К., законна выбраны прадстаўнікамі праваслаўных беларусаў, мае свой орган і залегалізаваны Статут, і такім чынам, зьяўляючыся законнай юрыдычнай асобай, павядзе рашучую барацьбу за вызваленьне Праваслаўнае Царквы ад шкоднага ўплыву чорнасоценных элемэнтаў для агульнага дабра Царквы, народу і праваслаўнага духавенства.

Можа тое, што Ц. Б. П. К. будзе дамагацца і даб'ецца скліканьня Усяпольскага Праваслаўнага Сабору з удзелам *прадстаўнікоў ад Беларускага народу*?

Можа тое, што Ц. Б. П. К. дамагаецца каранных рэформаў у Духоўнай Сэмінарыі і *духоўных кансысторыях*, што пазбавіць заведамых расейскіх чорнасоценцаў магчымасьці *жыраваць* на Праваслаўнай Царкве на Беларусі? Ц. Б. П. К., распачаўшы сваю акцыю аздараўленьня Праваслаўнай Царквы на Беларусі, добра ведаў, што яму прыдзецца стачыць барацьбу з арганізаванай і згуртованай духоўнай кастай, якую падтрымліваюць некаторыя групы аб'яднанага і зарганізаванага расейскага грамадзянства, лічучы наш край „искони русским".

Але-ж трудна было спадзявацца, што барацьба пойдзе такім неэтычным шляхам, як павялі яе нашыя ворагі у чорнасоценнай газэце „Наша Жизнь".

Гэтым коаліцыя духавенства і чорнасоценных расейскіх элемэнтаў паказала нам, што барацьба будзе весьціся не н а ж а р т, а н а ж ы ц ь ц ё і с ь м е р ц ь.

За намі — слаўнае гістарычнае прошлае Праваслаўя на Беларусі, калі беларускі народ цаною вялікіх ахвяраў захаваў сваю веру і нацыянальнасьць, за імі—толькі верная служба царскаму ўраду і зьдзек над беларускім народам.

Ц. Б. П. К. ня здрадзіць даверра, якім надзяліў яго сход 14/III—1930 г., не спалохаецца тых інсынуацыяў і таго бруду, які выкінулі на Ка-

мітэт чорнасоценцы у сваей газэтцы і не аддасьць сваіх духоўнікаў на крыўду і зьдзек.

**ЦБПК сваей працы ня спыніць! і за ўсялякую цану будзе дабівацца ачышчэньня Праваслаўнай Царквы на Беларусі ад прышлага, варожага беларускаму народу элемэнту, і даб'ецца той шчасьлівай часіны, калі духаўнік і народ будуць блізкі адзін да другога і па крыві і па мове, і разам будуць бараніць на сваей беларускай зямельцы сьв. Праваслаўе і дабівацца зьдзейсьненьня сваіх Нацыянальных Ідэалаў.**

**З намі Бог!** **У. Б.**

# ДЗЕ ПРАЎДА і СЬВЯТАСЬЦЬ.

Дзе Праўда і Сьвятасьць мы ў праве сяньня запытаць і Яго Высокапрасьвяшчонства Хвядоса і Віл. Кансысторыю, бо ніхто іншы як арх. Хядос і Віл. Кансысторыя гэтую Праўду і Сьвятасьць зламалі. І таму мы, баронячы Сьв. Праваслаўе і Законы Хрыстовы, сяньня змушаны стаць яшчэ вастрэй, яшчэ магутней у абарону Ідэяў Хрыстовых. Змушаны дзеля гэтае здаптанае Праўды і Сьвятасьці, праз тых, хто Іх павінен бараніць, сяньня шчыра гаварыць аб тым, аб чым хацелі спачатку замаўчаць, нема абыйсьці. Хай ведаюць і Арх. Хвядос і Віл. Кансысторыя, хай ведае і Хрыстова-Пастырская Рацьі Народ Беларускі, хто тварыў і ствараў і пашто быў створаны Ц. Б. П. Камітэт? Хай ведама будзе ўсім, што Ц. Б. П. Камітэт стварыўся не пад націскам Улады і не дзеля інтарэсаў Каталіцызму, як гэта стараліся вытлумачыць людзі з-пад сьцягу Кансысторыі, а стварылі Камітэт арх. Хвядос і Віленская Кансысторыя. Які ўдзел у тварэньні Камітэту прыняла Кансысторыя, хіба кожнаму добра ведама. Які ўдзел у тварэньні Камітэту прыймаў арх. Хвядос, разгледзім бліжэй. Закладчыкі Камітэту, калі толькі яшчэ пачалі тварыць яго, адразу зьвярнуліся па Архіпастырскае Благаслаўленьне да арх. Хвядоса. Справа паўстаньня Камітэту была там добра высьветлена. Камітэт атрымаў і Архіпастырскае Благаслаўленьне і Архіпастырскія Парады. Камітэт павінен быў злажаным быць з пастыраў і верных і гэта за Архіпастырскім Благаслаўленьнем і Згодай, бо Камітэт павінен быў ісьці бараніць Сьв. Праваслаўе і Сьв. Царкву. І вось на заклік закладчыкаў адгукнуліся ня толькі верныя Прав. Беларусы, але адгукнулася горача і духавенства. Шмат, шмат пастыраў зьбіралася і прыехала на Зьезд-Конфэрэнцыю ў Вільню, бо з намі было і Архіпастырскае Благаслаўленьне і Згода. Праўда, Камітэт сяньня апынуўся чамусьці бяз гэтага Благаслаўленьня і Згоды. Але ці з нашай гэта віны. Не! і яшчэ раз не! У апошнюю мінуту, перад тым, як Камітэт меў прыйсьці на сьвет, Архіпастырскае Благаслаўленьне было нягодна зламана самым арх. Хвядосам! Чаму гэта здарылася так, хіба растлумачаць толькі тыя, асобы, у каго сумленьне было ня зусім чыстым, хто баяўся за сваю Чыстасьць і Праўду, хто ў асобе Камітэту баяўся ўбачыць абаронцу закабаленага, уціснутага маральна і матэр'яльна радавога духавенства і верных, хто ў асобе Камітэту адразу ўбачыў ворага чорнасоценска-кансысторскае прыгонішчыны і чорнасоценскага русыфікатарства. Аднак шмат хто напэўна зьдзівіцца і папытае, як мог гэтак пастуліць арх. Хвядос, як мог Ён, Архіпастыр, не датрымаць даннае слова! Так, дзіўна і вельмі дзіўна!!! Але пас-

лухаем, далей дзіва загіне або перародзіцца ў перапалох. Людзі, якія ламаюць прысягі, лёгка ламаюць і слова! Шмат хто чуў, а можа і бліжэй ведае аб тым, што адбывалася ў 1918 г. у Кіеве на Саборы Япіскапаў. Ведамы хіба ўсім і Акт Асьвяшчоннага Сабору Япіскапаў у 1918 г., замацаваны гэткай страшнай, сапраўды страшнай і жудаснай клятвеннай прысягай: „...хто зломіць яе (клятву), хай будзе і па сьмерці адлучаны ад Царквы, хай будзе з праклятымі Іудамі, Арыямі, распінацелямі Хрыста... хай зялеза і камень зрунуюцца і растлеюць, а той (зламаўшы клятву) „да будет не разрешен или растлен...“ і г. д.

Страшная і вялікая клятва! Яе аднак Япіскапы прынялі і падпісалі, каб пасьля, каб не ламаць яе, ісьці на мукі, цярпеньні, прасьледаваньні і гэройскую сьмерць. Слава Вам, зьгінуўшым за сваю клятву, за дадзенае слова! Падпісаў тады гэта і нейкі арх. Хвядос Смаленскі?! Мы сяньня пытаемо, хто быў гэты Хвядос Смаленскі?! Дзе Хвядос Смаленскі цяпер!? Каму Хвядос Смаленскі сяньня прысягнуў?! Мы пытаем, ці Хвядос Смаленскі датрымаў мужна, Хрыстова-мучальніцка сваю клятву?!

І вось пасьля гэткіх фактаў ці-ж трудным і цяжкім зьяўляецца зламаньне там „нейкага“ слова? Ці-ж трудна заперціся таго, што абяцалася? Ды хіба, што не! Дык вось-жа, хай ведае ўсё хрысьціянства, чаму гэтулькі Камітэт мусіць пераносіць прасьледаваньняў, чаму гэтак варожа выступілася супроць Беларусізацыі Царквы, чаму „паны“ русыфікатары з радоў чорнае сотні маюць гэткі спогад і абарону „сваіх“ правоў. Хіба кожнаму цяпер будзе зразумелым, чаму туды, у Маскву, так хінуцца галоўкі „едино-неделимцев“ Праваслаўнай Царквы, чаму так ня любіцца ўсё Беларускае, чаму на Сабор на нашых землях абралася тых, хто чужы і варожы Беларускаму Народу, хто лёгка можа загаласаваць супроць Аўтакэфаліі Пр. Царквы ў Польшчы, з кім лёгка можна будзе злучыць Нашу Царкву з Маскоўскай!

Дзе Праўда і Сьвятасьць? Там Праўда і Сьвятасьць, хто ахвярна і самааддана бароніць Праўду і Сьвятасьць! Там, дзе ў змаганьні за Праўду і Сьвятасьць людзі абліваюцца клятвапраступнай няпраўдай, ілжой!

Мы верым аднак, што зварухнецца Хрыстова-Пастырская Рацьа, зварухнецца Беларускі Народ і шчэзьне клятвапраступнае здаптаньне Праўды і Сьвятасьці, прагрыміць веснавым грымотам магутнае „з Намі Бог!“ і зноў уваскрэсьне і зазьзяе сонцам Праўда і Сьвятасьць!

Мы верым аднак, што Блажэньнейшы Наш Архіпастыр пойдзе нам на сустрэчу, дапаможа нам служыць Яму сыноўска—аддана. Мы верым, што прыхіл Яго да нас, раз ужо тэлеграмай нам даказаны, будзе трываць і надалей, будзе нам запэўненьнем таго, што Ён, наша Галава і Архіпастыр, не разумее нашу дзейнасьць, гэтак як арх. Хвядос і асабліва Віленская Кансысторыя, што ня будзе старацца дагледзіць у нас тое, што даглядаецца Кансысторыяй. Мы верым, што Ён, Найвялікшы Барацьбіт і Ваяка Праўды і Сьвятасьці, не дазволіць Нашу Беларускую Царкву аддаваць у рукі чужыя, не дазволіць даптаць нягоднасьцямі ворагу нашы душы, пачуцьці, нашае Імя. Мы верым, што Ён— Праўда і Сьвятасьць, павядзе нас Пастырска змагацца за Праўду і Сьвятасьць, пакажа сьвету і даптальнікам Праўды і Сьвятасьці, што жыла, жыве і будзе жыць Хрыстова Праўда і Сьвятасьць!!!

В. БОРВІЧ

# ПРАДСАБОРЧАЕ САБРАНЬНЕ.

Мы першыя высунулі думку аб неабходнасьці скліка624ня Прадсаборчага Сабраньня, на якім павінны быць падрыхтаваны ўсе матэр'ялы на Ўсяпольскі Праваслаўны Сабор, каторы мае на мэце ўстабілізаваньне палажэньня Правас-

лаўнае Царквы ў Польшчы і замены існуючага цяпер сынадальна—кансысторскага ўкладу Царквы на Саборны.

Ясна, што Прадсаборчае Сабраньне павінна выканаць паважную тэхнічную і арганізацыйную працу, на якую пойдзе ня мала часу.

Мы зусім далучаемся да п. А. К. Свіціча-Туберозава з газ. „За Свабоду," які радзіць, каб склікаць гэтае Сабраньне як найхутчэй.

Мы ўводзім толькі постулят, што на Прадсаборчае Сабраньне павінны быць запрошаны ад беларускіх эпархіяў прадстаўнікі беларускага грамадзянства, а не сябры Р. Н. О., як гэта сталася з запросінамі на Сабраньне, вызначанае на 5 траўня.

Бо лічым, што на Прадсаборчым Сабраньні павінна быць вырашана нацыянальная проблема ў царкоўным жыцьці на Беларусі.

Вышэйшае праваслаўнае духавенства на Беларусі не разумее тае эволюцыі, якую пражыў беларускі народ за апошнія 10 гадоў, што самапачуцьцё беларускага народу вырасла і выкрышталізавалася. Духавенства гэтае, йзгадованае ў традыцыях Царскай Расеі, зьяўляецца чужым па духу і крыві беларускаму народу. Справядлівыя-ж дамаганьні народу ў сэнсе беларусізацыі духоўных установаў і духавенства, яна разглядае, як акт бунтарства і расколу.

З ім дагаварыцца нельга!

Цёмныя хмары завісьлі над праваслаўнай Царквой на нашай зямельцы, трэба ўсім аб'яднацца для абароны Царквы і ўтрыманьня яе ад развалу і ўпадку, а тут вышэйшая духоўная ўлада на Беларусі занята ідзе на разлад паміж духавенствам і паствай.

Калі знайходзіцца духаўнік — шчыры беларус, якого беларускі народ цэніць і паважае, дык для яго не шкадуюць рэпрэсыяў і зьдзекаў.

Ня хочуць, ці ня могуць зразумець, што народ у сваім адраджэнскім руху такога паважнага чыньніка, як рэлігія, ня можа пакінуць у чужых руках.

Прадсаборчае Сабраньне павінна вырашыць гэтае пытаньне, і такім чынам падгатаваць грунт для скліканьня Ўсяпольскага Праваслаўнага Сабору, які павінен увясьці прынцып Саборнасьці ў нашаю Царкву.

Саборнасьць прадбачвае аб'яднаньне духавенства і пасомых, і ўдзел міран у кіраваньні Царквой.

Калі ня зьменіцца цяперашні status quo у Нашай Царкве, ці-ж можна правесьці ў жыцьцё гэтую ідэю саборнасьці?

Калі нашая духоўная ўлада гэтага не разумее, калі яна сваім „упорством" падрыхтоўвае грунт для развалу і ўпадку Праваслаўя на Беларусі, дык сьвяты абавязак Вышэйшае Духоўнае Ўлады Аўтакэфальнае Царквы ў Польшчы, як найхутчэй склікаць Прадсаборчае Сабраньне і ў першую чаргу паставіць на вырашэньне гэтае балючае пытаньне.

*У. Б.*

## АГЛЯД „ПРАЦЫ".

Закладзіны Ц. Б. Пр. Камітэту і яго афіцыяльны орган „Сьветач Беларусі", як і трэба было спадзявацца, выклікалі цэлую буру і вялікі перапалох сярод чорнасоценска-кансысторскіх элемэнтаў. Ідэі, кінутыя Ц. Б. П. Камітэтам і „Сьветачам Беларусі", былі на гэтулькі абаснавана-справядлівымі і зусім на мейсцы, што частка расейскага, здарова-маральнага грамадзянства прыняла гэта, як

найлежны, даўно чаканы крок ў разьвіцьці незалежніцкае думкі Беларусаў, зусім спакойна, а нават вельмі прыхільна. За тое з боку кансысторскіх — чорнасоценскіх шовіністычных элемэнтаў акцыя беларусізацыі царквы выклікала вялікае нездаваленьне, напаткала на нічым неабаснованую контр-акцыю. Дзівіцца гэтаму людзям здарова разумуючым здаецца ня прыходзіцца. Сіла, з якой выступіў Камітэт у сваіх дамаганьнях, апіраючыся на народ, ёсьць на гэтулькі паважнай і рашучай, што зусім ня дзіва, што людзі, манаполізуючыя эксплёатацыю царквы, як золатаносную крыніцу, убачылі ў асобе Камітэту арганізацыю для сябе вельмі небясьпечную, а нават па ўплывах на народ і беларускае духавенства куды магутнейшаю. Адкрыта адкінуць ідэю Беларусізацыі Царквы значыла бы падняць сябе на сьмех, здыскрэдытаваць у вачох апініі грамадзянства. Аднак змагацца за „свае" правы на Пр. Царкву на Беларусі трэба, інакш прыдзецца разьвітацца з салодкімі тысячамі злотых, якія дагэтуль так лёгка, хоць можа і нягодна, бяз ніякага кантролю плылі ў бяздонныя кішані. Словам, трэба было нешта рабіць! Вось работа гэта і пачалася. Праўда, работа гэта ёсьць настолькі бруднай і неэтычнай, што Камітэт паміма таго, што спадзяваўся нейкага спраціву, аднак гэткае памыйнае кампаніі з боку як ніяк чыньніка паважнага і людзей, нясучых Ідэі Хрыста ніколі не спадзяваўся. Чорнасоценска-кансысторскія прыблуды, паразыты грамадзкае працы, выявілі ў сваёй акцыі супроць Беларусізацыі Царквы ня толькі ўпадак маральны, здэгэнараванасьць, але нават духовую . . . . . . . . і маральнае банкроцтва. Пасьля гэтага ўсяго зусім зразумелым будзе грамадзянству, чаму гэткімі бруднымі апынуліся сябры Камітэту, чаму „непатрэбнай"зьяўляецца Беларусізацыя Царквы. Прыглядзімся цяпер крыху бліжэй самай акцыі дэгэнэратаў „Наша-жизненских" і кансысторскіх. Па першае, змабілізаваліся для барацьбы з Камітэтам усе адпадкі грамадзянства. Заварушыліся брудныя *даношчыкі* Егоравы, *катаржнікі* Валэйшы (каталік!) і іншыя кветкі абароны Царквы з-пад сьцягу кансысторскіх „дзеячоў", як прат. Кушнёвы і С-о. Пачалося ілжывае высьвятленьне канфэрэнцыі 14 сакавіка 1930 г., на якой налічылі ўсяго толькі 11 чалавек, калі сапраўды подпісаў прысутных на канфэрэнцыі зложана ў пратаколе некалькі раз па адзінаццаць, а сам Камітэт лічыць 12 асоб. Пачалося перакручываньне назову Камітэту, які зрабіўся ў гэных „нечыстоплотных", памыйных пісакаў у „Камітэт Царкоўны", калі сапраўды камітэт статутова называецпа „Цэнтральны Беларускі *Праваслаўны* Камітэт па Беларусізацыі Царквы". Чаму гэта было зроблена-ясна! Прав. Камітэт баронячы праваслаў'е перад гэткай брыдотай і адпадкамі як „Наша-Жызьнескія" пісакі, *мае* права на жыцьцё. Глядзімо далей! Бачым, распачалася брудная лаянка і абліваньне балотам сяброў Камітэту! „Наша Жизнь" кожны дзень пачала фабрыкаваць цэла-старонныя сэнсацыі і інсынуацыі, якіх вартасьць кожны можа зразумець, калі даведаецца, што паўставалі за чарку гарэлкі і пару залатовак ad hoc на калене пісаныя. Аб праўдзівасьці іх скажа Віленскі Суд! Камітэт далей ідучы, зрабіўся на старонках „Нашай Жызьні" раптам нейкай падазронай, пахнючай вуніяй, каталіцкай арганізацыяй, між тым як кожны, хто чытаў „Сьветач Беларусі" сам найлепш мог пераканацца, да чаго імкнецца Камітэт і што хоча зрабіць. Таксама кожны можа сказаць ці пэўнай, не цягнучай у вунію, зьяўляецца работа сяброў Віленскай кансысторыі, сярод якіх маем вялікага і слаўнага перакульшчыка „місыянэра" архім. Марозава, „дастойнага" прот. Тучэмскага, які сам заганяе сваіх гадунцоў з сэмінарыі ў Люблін у каталіцкія Духоўныя Акадэміі, сярод якіх маем гандляршчыка (зямлю Мікалеўскае царквы аддаў ў арэнду на 36 гадоў) „расейца"—„паляка" — „беларуса" прат. Кушнёва і г. д. Хто нам і грамадзянству можа заручыцца, што рост на нашых землях вуніі і адыход праваслаўных верных ад праваслаўя з прычын вялізных кансысторскіх падаткаў, зьяўляецца не адумыснай і пэўнымі ганарарамі субсыдыяванай работай гэтых сяброў? Будучыня і вельмі блізкая усё пакажа! Але ці на гэтым канец кансы-

сторска-„Наша-Жызьненскай“ акцыі? Дзе там! А запалохваньне перад Вялікаднем сяброў Камітэту анафемай, каб гэтым адбіць ад іх грамадзянства і духавенства, а выкіданьне з пасады псаломшчыка беларускага студэнта С. Сароку за тое, што той „поносіл духовенство,“ калі сапраўды той выступаў ня супроць духавенства, а тых, што ганьбяць духавенства і Царкву, супроць тых, што гоняць праваслаўных у каталіцызм, супроць тых, што таргуюць зямлямі царкоўнымі і ашуківаюць людзей і ім падобным. А бандыцкія напады на сяброў Камітэту з пагрозай прыстрэліць за дзейнасьць іх у Камітэце, а стараньні дэманстрацыйнага выкіду вядомага грамадаўца беларуса сьв. А. Кауша з прыходу з Вільні, а... не хапіла-б і літэраў „а“ у друкарні. Словам, распачалася „праца!“ „Праца,“ якую сьвет культурны акрэсьлівае, вытварыўшы наступныя тэрміны: ілжывая інсынуацыя і ашуканства, чорнасоценская правакацыя, брудны шантаж, духовае банкроцтва і . . . . . . . . . . . кіданьне заміраючае дэгэнэрацыі! І пасьля гэтага ўсяго ці можа гэткая „праца“ гэткіх „працаўнікоў“ здыскрэдытаваць у вачох грамадзянства Камітэт і Беларусізацыю Царквы? Нам здаецца, што ніадзін культурны, маральна здаровы чалавек за добраць і справядлівасьць гэтае „працы“ ня выскажацца. Камітэт за тое, гэтая „праца„ толькі яшчэ больш загартуе, узьніме на сілах, дасьць яму падставу, дзеля змаганьня пры ачышчэньні Беларускае Царквы ад гэтага дрыгвянога балота. „Праца“ гэтая—толькі яшчэ адзін прыклад гаворачы аб неабходнасьці Беларусізацыі царквы, або зьліжэньня духавенства з народам. „Праца“ гэтая—толькі зарука таго, што ідэі Камітэту народ Беларускі хутчэй прыме да ведама і хутчэй дэгэнэратаў „працоўных“ пагоніць з нашых зямель; зарукаю таго, што кліч Камітэту „З намі Бог“ дасягне ў кожны закутак нашае краіны і зварушыць усю Беларусь, гонячы гэтых брудных кансыстторска-чорнасоценных прыблудаў з нашых гоняў у прочкі.

В. БОРВІЧ.

# СЛАВА!

Гэтым словам толькі і можна акрэсьліць слаўную пастырскую і грамадзкую дзейнасьць сьв. Александра Кауша на ніве Адраджэньня Бацькаўшчыны і старожы Ідэяў Хрыстовых. Нязломная энэргія, гранітны гарт, нясупынная, захопленая праца, глыбокая, Хрыстовая любоў сваіх бліжніх, шчыра-маліцьвеннае служэньне Богу, ахвярнасьць і каханьне сыноўскае сваей Бацькаўшчыны і Народу — вось часьцінка рысаў яго беларускага Я. Вось тая прычына тых вялікіх заслугаў і працы як пастыра, якімі не пахваляцца ня толькі сьвяшчэньнікі віленскія мястовыя, а магчыма і самі кіраўнікі Віленскае Эпархіі. Вось дзе мусім шукаць тлумачэньне таго, што дзьве найбольш зруйнаваныя, разваленыя, абдзёртыя цэрквы — сьв. Міхаіла і сьв. Параскевы Пятніцкай сяньня небахопна, горда высяцца абноўленыя, сяньня ізноў зьзяюць сьвежасьцяй і нейкай сапраўды прастара-беларускай прошласьцю. Сяньня служаць месцам, дзе ізноў маюць магчымасьць слаць свае малітвы прад аўтар Усемагутнага Тварца сотні віленскіх работнікаў і ўзрастаючай беларускай моладзі.

Зразумелай на‘т будзе цяпер і дзейнасьць сьв. А. Кауша як грамадзяніна, як сына сваей Бацькаўшчыны, як барацьбіта Адраджэнскіх Ідэяў паняволенага народу. Зразумелай нам будзе цяпер яго самаадданая праца над узгадаваньнем беларускае моладзі на грунце Ідэяў Хрыстовых і Ідэалу Беларускае Незалежнасьці: Зарзумелай будзе нам яго праца над закладзінамі Беларускага Коопэратыўнага Банку і ахвярная праца ў ім, мазольная работа ў Беларускім Дабрадзейным Таварыстве, у Віленскай Беларускай Гімназіі, у выдаваньні бела-

рускага друкаванага слова, нясучага Народу шлях і запэўненьне Вольнага Заўтра, і шмат, шмат яшчэ маем іншае цяжэйшае, больш мазольнае і потнае працы гэтага сапраўды ПАСТЫРА, Грамадаўца, Барацьбітнага Дзеяча і Змагара. Яго праца ёсьць нагэткі вялізнай і карыснай, нагэткі дарагой і магутнай цаглінай для будуючайся Бацькаўшчыны, што можа толькі выклікаць зьдзіўленьне, вялікаю пашану, можа быць прыкладам для другіх, можа быць акрэсьлена сяньня толькі словам СЛАВА. Слава Вялікаму пастыру і Змагару за Веру Хрыстову і Вольную Беларусь!!!

В. БОРВІЧ.

# КАНСЫСТОРСКІЯ ПЛЯНЫ.

Прадстаўнікі беларускіх культурна-асьветных установаў паднялі пытаньне перад Міністэрствам Рэлігіі і Духоўнымі ўладамі аб утварэньні ў Вільні для здаваленьня рэлігійных патрэбаў праваслаўных беларусаў этатовага прыходу. Міністэрства Рэлігіі пісьмом ад 26 сакавіка 1930 г. за № VI (N. к. 1517) 29 дало згоду на гэта. Пасьля гэтага прадстаўнікі беларускага царкоўнага грамадзянства зложылі заяву аб утварэньні беларускага прыходу пры Мікалаеўскай царкве, якая знаходзіцца ў цэнтры места і дзеля гэтага ў аднолькавай меры можа здаволіць рэлігійныя патрэбы беларускага насельніцтва з усяго гораду.

Як-жа аднеслася да гэтага Віленская Кансысторыя з архіяпіскапам Хвядосам? Яна высунула проэкт аб перамяненьні этата са Сьніпішскае царквы ў Вільні (што раўназначна скасаваньню сьніпіскага прыходу) у Раманаўскую царкву на Пагулянцы з тым, каб гэтую царкву лічыць беларускаю (глядзі, „Dziennik Wil)'

Прыхаджанамі Сьніпішскага прыходу зьяўляюцца пераважна працаўнікі шкляных гутаў, цагельняў і наогул бедната па нацыянальнасьці беларусы, дзеля гэтага буржуазна-чорнасоценская Кансысторыя імкнецца зьліквідаваць Сьніпішскі прыход, пазбавіўшы магчымасьці працоўны народ маліцца.

Раманаўская царква знаходзіцца сярод праваслаўных, па нацыянальнасьці выключна расейцаў. І вось гэтую царкву, якая знаходзіцца на акраіне гораду, Кансысторыя хоча зрабіць беларускай. Зьдзейсьненьне гэтага пляну Кансысторыі было-б зьдзекам над беларускім і расейскім насельніцтвам і наогул над Праваслаўем. Мэтаю такога проэкту ёсьць жаданьне нацкаваць адну частку праваслаўных беларусаў, якія паводле антыхрысьціянскага пляну Кансысторыі павінны адыймаць царкву ў расейцаў—на гэтых апошніх і наадварот!

На гэту правакацыю праваслаўныя беларусы ня пойдуць процiў сваіх-жа братоў па веры.

Прыняцьце гэтага пляну змусіла-б сучаснае расейскае жыхарства, якое лічыць сябе прыхаджанамі Раманаўскаё царквы, хадзіць у другія большыя цэркві, а беларусы змушаны былі-б хадзіць за ўсяго гораду на адну з яго акраінаў; у выніку чаго стварылася-б становішча, пры якім і адны і другія сталі-б менш хадзіць у цэрквы.

Ня толькі зьдзейсьненьне, але пастаноўка пытаньня ў такой плошчы ад'емна адбілася-б на палажэньні Сьніпіскага этатовага прыходу, бо яно-б паказала, быццам сама духоўная ўлада лічыць не патрэбным існаваньне Сьніпіскага прыходу. Між тым, як гэты прыход распаложаны таксама на далёкай акраіне гораду задавальняе рэлігійныя патрэбы, як адзначана, працоўных масаў найболей беднага насельніцтва у Вільні, якія ня могуць хадзіць у далёкія цэрквы, хаця-ж ужо таму, што ня маюць належнага абутку і вопраткі.

Для нас Канстанціна — Мікалаеўская (Раманаўская) царква зьяўляецца толькі сьвятыняй. Для палякаў-жа яна зьяўляецца палітычным памятнікам быўшае ня-

волі і гвалту, якая была пабудавана з ведамаю мэтай, чаму і цяпер завецца: „Раманаўскай“.

Такі пагляд на „Раманаўскую“ царкву служыць прычынаю адмовы з боку Ураду на прызнаньне яе ня толькі этатоваю, а нават філіяльнаю. Гэтыя самыя прычыны служаць, у дадатак да вышэйпрыведзеных, ня прыемнымі і для беларусаў, якія не жадаюць свае рэлігійныя пачуцьці мяшаць з палітычнымі памятнікамі і праз гэта ствараць варожыя адносіны з польскім народам, бо маюць права, як старая нацыя ў краі, на сьвятыню, пабудаваную выключна з рэлігійнымі мэтамі.

Такой сьвятыняй зьяўляеца Мікалаеўская царква, якая знаходзіцца ў цэнтры гораду і аднолькава можа абслужваць праваслаўных беларусаў, жывучых ва ўсіх часьцінах гораду.

*Безстаронны.*

## ВЕСТКІ

### Яшчэ аб кансысторскай маралі.

У №1 „Сьветача Беларусі“ была зьмешчана зацемка пад загалоўкам: „Кансысторская мараль,“ у якой высьвятлялася справа пераводу сьвяшчэньніка А. Зубовіча з Астрыны ў Галубічы. У сувязі з гэтым у №456 ад 1 траўня віленскае чорнасоценнае газэта „НашаЖизнь“ зьмешчана „опроверженіе“ Зубовіча. Аналёгічнае „опроверженіе“ атрымана ад сьв. Зубовіча і рэд. „Сьветача Беларусі“. Гэтыя наіўныя пісьмы ня толькі не „опровергают“ прыведзеныя ў „Сьв. Бел.“ дадзеныя, а сьцьвярджаюць іх і даюць права дапоўніць іх тымі дадзенымі, аб якіх а. Зубовіч забыўся.

Сьв. Зубовіч у сваім пісьме піша, што ён нідзе, нікому не гаварыў аб каштоўнасьці здабычы Галубіцкага прыходу і тут-жа паясьняе, што яму прышлося панясьці гаспадарчыя выдаткі, „но это отнюдь не то, что плата за какую бумагу“.

У зацемцы „Кансысторская мараль“ не гаварылася аб плаце за какую-то „бумагу,“ а прыводзіліся толькі скаргі а. Зубовіча на каштоўнасьць здабычы Галубіцкага прыходу, а ўжо ён сам у сваім пісьме робіць вывады, якіх у „Сьв. Бел.“ ня было зроблена.

Мы зусім верым а. Зубовічу, што ён панёс „гаспадарчыя выдаткі“. Гаспадарчыя страты нясе кожны сьвяшчэньнік пры пераводзе ў другое мейсца. Але чаму гэта не вядзецца следзтва і апрос сьведкаў Кансысторыяй аб гаспадарчых стратах пры пераводах другіх сьвяшчэньнікаў?

Сам-жа а. Зубовіч піша, што ў Кансысторыі „происходіло разследованіе і опрос по очереді вызванных свяшчэннікоў“... што „Владыка знает всё это дело... ім-же была наложена резолюція: не верить слухам“.

Такім чынам а. Зубовіч сьцьвярджае, што ён панёс „гаспадарчыя выдаткі“ і што аб гэтых выдатках вялося следзтва—гэта-ж і ёсьць тое, аб чым было надрукована ў „Сьв. Бел.“

Сьв. Зубовіч не прызнаецца да таго, што ў Кансысторыі, стукаючы кулакамі па стале, пагражалі паслаць яго за доўгі язык на пасаду псаломшчыка. Катэгарычна сьцьвярджаецца, што ў рэдакцыі „Сьв. Бел.“ ёсьць дадзеныя, хто пагражаў і нават колькі разоў стукнуў кулаком па стале.

Не адпавядаюць праўдзе і словы а. Зубовіча, быццам яму быў адданы Галубіцкі прыход. Ці не прыяжджаў ён у гэтай справе два разы ў Вільню? Ды ня мог сьвяшчэньнік, яго папярэднік, здаць прыход Галубіцкі, не атрымаўшы сам паперы аб гэтым. Сьв. Зубовіч піша, што Астрыно лепшы прыход за Галубічы, бо ў Астрыне 8.000 прыхаджан, а ў Галубічах 2100, але ня піша аб тым, што ў Астрыне ён быў другім малод-

шым сьвяшчэньнікам, а ў Галубічах назначаны настаяцелем. Магчыма так-жа, што яго цікавіць больш лёс Галубіцкага прыходу (каля 75 дз.), як 8.000 душ прыхаджан Астрынскага прыходу.

Сьв. Зубовіч пярэчачы сам сабе, бо сам прызнаецца, што сьледзтва вялося аб гэтым, піша, што ён нідзе не гаварыў аб каштоўнасьці здабычы Галубіцкага прыходу. Мы прыпомнім яму гэтыя мейсцы. Гаварыў ён аб гэтым у Галубічах, Астрыне і ў Глыбоцкім Старастве.

Ня можна абыйсьці моўчкі і салямонаўскую рэзалюцыю архірэя Хвядоса: „не веріть слухам.“ Другімі словамі кажучы, арх. Хвядосам прапануецца (каму?) ня верыць таму, што аб сабе самым кажа сьв. Зубовіч. Так звычайна гавораць толькі дактары-псыхіятры аб сваіх хворых.

Такім чынам замест „опроверженія“ а. Зубовіч садзіць сябе і другіх яшчэ ў большае балота. Мы шчыра парадзілі-б яму, каб не кампрамітаваць сябе, болей такіх „апраўяржэньняў“ ня пісаць і падобнымі рэзалюцыямі аб сабе нават архірэйскімі не бараніцца, а падгатовывацца лепш да экзамену, якога ён яшчэ дагэтуль не злажыў на сьвяшчэньніка. Зьмяшчаючы пісьмо сьв. Зубовіча брудная газэтка „Наша Жизнь“ разразілася лаянкай па адрасу Цэнтр. Бел. Пр. Кам., быццам ён зацемкую „Кансысторская мараль“ падрывае Праваслаўе. Але 1) Камітэт не зьяўляецца адказным за Кансысторскія парадкі і звычаі; 2) у „Сьв. Бел.“ не гаварылася аб хабарах, аб гэтым стала ведама толькі з „Нашай Жызни“ і вясьці з ёю дыскусыю на гэту тэму рэд. „Сьв. Бел.“ ня зьбіраецца, хіба-ж „Наша Жызьнь“ ведае, аб чым піша. Вядучы змаганьне з такімі парадкамі і асобамі, Камітэт мае на мэце ачышчаць царкву ад недастойных элемэнтаў і шкодных парадкаў, а праз гэта ўмацоўваць Праваслаўе. Разбураюць-жа яго як раз тыя блізкія да Кансысторскіх „сфэраў борзапісцы“ з „Нашай Жызьні“, якія баяцца чыстага паветра, месяць гэтае балота і адчуваюць сябе ў ім, як нейкая жывёлінка ў лужы. Яны прызвычаіліся да цемры, дзеля гэтага так баяцца сьвету і праўды.

# Гісторыя аднаго дакумэнту.

На пачатку 1930 г. прадстаўнікі беларускіх культурна-асьветных установаў зьвярнуліся да Мітрапаліта Дзіанісія з просьбай аб прызначэньні ім Мікалаеўскай царквы, як прыходзкай. Яшчэ раней Міністэрства Рэлігіі і Асьветы паведаміла, што з яго боку ня будзе перашкодаў да прызнаньня беларускім прыходам у Вільні таго, які абяруць беларусы.

Просьба прадстаўнікоў беларускіх установаў была пераслана Міністэрствам у Віленскую Духоўную Кансысторыю, каб яна выказала свой пагляд на гэтую справу.

Калі гэтая папера была атрымана ў кансысторыі, дык зараз-жа, яшчэ да запісу гэтае справы ў журнал, была зроблена з яе копія і абвешчана расейцам. Каб утрымацца пры Мікалаеўскай царкве. а. Кушнёву прышлося прасіць у расейцаў пасьведчаньня, што ён „тоже Белорусс“.

І здабыў яго, хаця-ж і з ашуканствам.

Калі ў Прачысьценскім Саборы было адмоўлена самому а. Кушнёву зьбіраць подпісы пад адпаведнаю просьбаю аб неаддачы Мікалаеўскай царквы беларусам, быў прысланы „свой чалавек“, які гэтак зьбіраў подпісы:

— Подпісывайте, господа, подпісывайте!

— Что подпісывать?

— Ніколаевскую церковь отнімают!

— Кто отнімает?

— Ну, не знаете, кто отнімает,—ізвесно, кто теперь у нас церкві отнімает“.

Дзеля таго, што балючым пытаньнем цяпер зьяўляецца пытаньне аб рэвіндыкацыі цэркваў, дык бачучы таямнічасьць падсоўваньня дзеля подпісу паперы, пра зьмест якой і гаварыць голасна ня можна, у перакананьні, што Мікалаеўскую царкву адбіраюць каталікі і палякі, падпісывалі.

Вось які дакумэнт мае вырашыць справу аб Мікалаеўскай царкве.

Адзін з сяброў кансысторыі напісаў спэцыяльны, на карысьць беларусаў, даклад па гэтаму пытаньню, але боль-

шасьць кансысторыі і Архіяпіскап Хвядосій навет не хацелі паслаць яго да Мітрапаліта.

ВОКА.

## „Формуляр“ кансысторскага ўрадоўца.

У рэдакцыі „Сьветач Беларусі“ знаходзіцца „формуляр“ аднаго урадоўца Віл. Дух. Кансысторыі. Хаця для беларусаў „формуляры“ падобных тыпаў не зьяўляюцца неспадзеўкаю, але зьмяшчаючы пакуль што толькі *некаторыя часткі* гэтага „формуляру“, жадаем папярэдзіць рускіх людзей, каб яны ведалі тых, хто сярод іх працуе, як „свой“ чалавек.

„Д. Д. Бохан прыбыў з Расеі нелегальна ў Вільню ў студні 1921 г. Па ўласных словах Бохана, ён у Расеі займаў „генеральскае места“ ў чырвонай арміі, прычым у яго распараджэньні была асобная частка, (артылерыйскі склад). ..Бохан перайшоў граніцу польска- савецкую са згоды сав. уладаў“...

„У Вільні Бохан пісаў даносы на рускіх у палітычную паліцыю (могуць гэта сьцьвердзіць: Кавэцкі і Олендскі, якія стаялі у 1922-1924 г.г. на чале палітычнай паліцыі)“...

На гэты раз будзе даволі. Цяпер Бохан урадовец кансысторыі, ладзіць у „Русском Доме“ духоўныя вечары, супрацоўнічае ў агіднай газэтцы „Наша Жизнь,“ падпісываючы свае артыкулы і сваім прозьвішчам і пэсўдонімамі „(б)“ ,беларус“, „хрысьціянін“ і г.д., у якіх бароніць такіх-жа як і сам сваіх кансысторскіх прыяцеляў, ілжэ на беларусаў, брэша на палякаў і піша даносы на рускіх. Ну-ж і здольныя людзі ў Віл. Кансыст.

У запраўднасьці вышэйпрыведзеных адрыўкаў аб Бохане можна не сумлявацца, бо ўвесь „формуляр“ пісаны прыяцелем Бохана, „знаўцам“ па гэтых справах, Егоравым

## ХРОНІКА

═ 25 красавіка г.г. адбылося прыходзкае сабраньне Іжыцкага прыходу у ліку 300 (трыста) асоб. Сабраньне пастанавіла залажыць аддзел Цэнт. Бел. Пр. Камітэту, што было і зроблена, Старшынёй Беларуск. Праваслаўнага Камітэту Іжыцкага прыходу выбраны Мікола Каваленка, віцэ-старшынёй Янка Касяк, сэкрэтаром Сьцяпан Рагач (з вёскі Задні Бор) і скарбнікам Мацей Рагач (з вёскі Карабейцы). Пратакол паседжаньня перасланы ў Прэзыд'юм Ц.Б.П.К. у Вільні. Сабраньне востра выступіла супроць адбыўшыхся выбараў на Сабор, на якім прайшлі адны расейцы. Сабраньне пастанавіла ...„лічыць папярэднія выбары самазваннымі, бо Беларускі Народ у гэтых выбарах удзелу ня прыймаў... На выбары павінны прайсьці прадстаўнікі ад беларускага прав. насельніцтва і бел. арганізацыяў...“

═ 4 Траўня г. г. наўзор зьезду 14 красавіка г. г. праваслаўных беларусаў у Вільні і закладзінаў Ц.Б.П.К. адбыўся ў Вільні зьезд каталікоў беларусаў і літоўцаў з Заходняй Беларусі і Ўсходняй Літвы. На зьезьдзе быў утвораны сталы „Каталіцкі беларуска-літоўскі Камітэт Заходняй Беларусі і Ўсходняй Літвы“. На чале Камітэту стаіць Прэзыд'юм, у склад якога ўвайшлі: ад беларусаў: др. Бр. Грабінскі, рэдактар М. Пяцюкевіч і Ор. Цікота, ад літоўцаў—др. В.Легейка, мг. права А. Юхневіч і дыр. І. Кайрукшціс. У васнову паложана акцыя каталіцкая на нашых землях. Мэтамі Камітэту зьяўляецца беларуса-літвізацыя касьцёлу на З. Беларусі і Ус. Літве, духоўных сэмінарыяў, школаў, пропаведзяў, абарона каталіцкага беларускага і літоўскага духавенства.

═ 5 траўня г.г. адбылося паседжаньне прэзыд'юму Ц.Б.П.К., на каторым была бліжэй разгледжана справа склікання

зьезду прав. беларусаў Вялейскага павету, справа прадсаборчага сабраньня, справа зьезду сьвяшчэньнікаў Віленскае Эпархіі, справа чорнасоценска-кансысторскіх нападаў у газэце „Наша Жизнь“ на Камітэт, на сяброў Камітэту і наагул на беларусізацыю Царквы і ўсё беларускае. Быў вынесены з гэтае прычыны пратэст, які быў друкованы ў беларускай прэсе (газ. „Наперад,“ нумар 19 з дн. 21. 5. 30 г.). Камітэт запратэставаў у наступным: „...рашуча пратэстуе супроць гэткага неэтычнага спосабу змаганьня з беларускім вызваленскім рухам;

рашуча пратэстуе супроць маскоўскае шовіністычнае палітыкі і русыфікатарскіх імкненьняў на беларускіх землях;

рашуча пратэстуе супроць маральнага і матэр'яльнага ўціску і эксплёатацыі расейцамі беларускага духавенства і народу;

рашуча пратэстуе супроць рэпрэзэнтаваньня беларускага народу на саборах і прадсаборчых сходах князямі Троекуравымі і іншымі расейцамі, адкрытымі ворагамі беларускага народу;

рашуча пратэстуе супроць „тоже-беларусаў“, разбураючых і ганьбячых Правасл. Царкву на Беларусі і таргуючых беларускім імем і дабром...“

Цікава аднак, ці ўжо вычэрпалася брудная выдумлівасьць чорнасоценска-кансысторскіх пісакаў, ці яшчэ і дагэтуль балотнікі камбінуюць паразалатовачныя сэнсацыі. Усё роўна ніхто ім не паверыць, каб як ні лаяліся і шалелі, бо кожны добра бачыць і разумее неабходнасьць палажыць гэтаму ўсяму раз канец. Беларуская Царква *мусіць* быць у руках беларускага радавога духавенства і верных, і *будзе*. Шалёнае кіданьне абазначае прадсьмертныя ўздрыгі і самую сьмерць.

═ 7 траўня г.г. адбылася у Варшаве першая нарада Вышэйшай Духоўнай Улады з прадстаўнікамі ураду ў справе склікаьня Сабору і Прадсаборчага Сабраньня, якое было ўжо раз вызначана на дзень 5 траўня, аднак дзеля пратэсту Ц.Б.П.К. і яго мясцовых аддзелаў супроць прадстаўнікоў ад беларускае Царквы, якімі чамусьці апынуліся прат. В. Юзьвюк (расеец), мітр. прат. У. Гушкевіч (рас.), мітр. прат. С. Жуковскій (рас.), ад народу В. Вішневскі—адвакат. Г. Мошчар — абшарнік і князь Л. Троекуров усе расейцы, а навет сябры Р.Н.О. (Расейскае Нацыянальнае Аб'яднаньне). Пасьля першае нарады адбылося іх яшчэ некалькі, дзе ўсьцяж абгаварывалася справа склікаьня Сабору і Пр. Сабраньня, якое мае сабрацца ў палове чэрвеня. На Прадс. Сабраньні будуць в браны прэзыд'юм і камісыі, якія падчас лета павінны апрацаваць пытаньне аб выбарах на Сабор, праграму працы Сабору, праэкт статуту, нармуючага суадносіны Царквы і гаспадарства. У месяцы верасьні адбудзецца некалькі пленарных паседжаньняў Прадс. Сабраньня, на якім будзе зложана справаздача камісыяў і вызначэны тэрмін склікаьня Сабору. Ці захаваецца і ці будзе захавана ў далейшым саборнасьць, думаць ня прыходзіцца шмат, аднак беларускі народ супроць гэтага выступіць належна і скажа на ўвесь сьвет аб гэтай нячуванай несправядлівасьці. Як яна адаб'ецца на верных Беларускае Царквы, скажуць падзеі, задатнасьць якіх можа быць вельмі ад'емнай для Праваслаўя. Хто маральную адказнасьць за гэта панясе, скажа блізкая будучыня і гісторыя.

═ 11 траўня г. г. адбыўся агульны сход Белар. Студ. Саюзу, на якім былі разгледжаны бягучыя справы і перавыбары Ураду.

═ 13 траўня г.г. вядомы грамадавец, нязмораны дзеяч сьв. А. Коўш атрымаў ад Віл. Кансысторыі „Загад“ пераводу з Вільні ў Ёткі (Браслаўшчына). Як і трэба было спадзявацца, „загад“ гэты выклікаў вялікае абурэньне беларускага грамадзянства, якое вельмі востра выступіла супроць Кансысторыі і гэткага дзікага „усердия для пользы службы“. Таксама Кансысторыя зьмясьціла яго з пасады вучыцеля В. Б. Г. і назначыла туды нейкага сьв. Беляева, што зьяўляецца ўжо гэткім абсурдальным і дзіўным, што газэта „Наперад“ пачынае з гэтага ўсяго публічна сьмяяцца. Далей газ. „Наперад“ зазначае нават для „пані Кансысторыі“ і „генерала“ арх. Хвядоса,

„...У гэтым выпадку пані Кансысторыя зарапартавалася так далёка, што на‘т вызначыла заступніка сьв. Каўшу ў Віл. Бел. Гімназіі, нейкага, відаць, „істінно-русскаго белорусса“ Беляева. Наіўныя „сьвятыя Айцы“, няўжо-ж яны думаюць, што Белар. Гімназія пазволіць нейкаму Беляеву русыфіцыраваць нашых дзяцей? Забыла, відаць, Кансысторыя, што гімназія — гэта ня прыход, дзе можна перакідаць людзей, як шчэпкі.“

„...Наагул ня думаем, каб знайшоўся такі „адважны“ айцец, які-б асьмеліўся сунуцца у гімназію супроць волі яе кіраўніцтва“.

Наколькі загаляпаваляся Віл. Канс. сьведчыць факт абурэньня са стараны, палякаў („Kurjer Wileński“), якія ўважаюць, што тут павінны ўмяшацца нават адпаведныя ўлады сьвецкія. Ці сапраўды сьв. А. Коўш быў такі шкодны, аб гэтым найлепш гавораць пратэсты беларускіх арганізацыяў, сотні подпісаў прыхаджан. Вартасьць Кансысторыі прадстаўляюць самі-ж расейцы, пішучы у сваёй найпаважнейшай газ. „Время“ і дадат. „Сегодня:“

„Трудно вініть духовенство, когда его деморалізірует в національном отношеніі сама духовная власть. Ведь ні для кого не тайна, что православная консісторія, об'явів себя безразлічной в вопросах національных, потіхоньку превратілась в очаг полонізаціі“

Словам, бачым, пераводзячы „для пользы службы“ сьв. А. Каўша з Вільні, Кансысторыя адкрыта выявіла сваё аблічча. Зразумела, сьв. А. Коўш, вядомы беларускі барацьбіт, у гэтым напрамку „для пользы службы“ Кансысторыі ніколі не пайшоў-бы. А таму і загад! Пара, пара ўжо даўно было адкрыта сказаць аб сабе тое, што закідывалася Ц.Б.П.К. Так „пані Кансысторыя“, шлях да сваей мэты абралі добры — спачатку полёнізацыя, русыфікацыя, вынік з гэтага — багаты, а тады вунія, а там і каталіцызм. Але глядзіце, каб не наскочыла ка а на камень.

== З ініцыятывы Усясьветнага Патрыарха Фоція II у дзень Сёмухі ў Грэцыі, на Афоне, адбудзецца нарада прадстаўнікоў усіх прав. Цэркваў дзеля агавору справы скліканьня Сусьветнага Праваслаўнага Сабору. АдПольскай Аўтакэф. Пр. Царквы паедзе Мітрапаліт Дзіаніс і арх. Аляксей Горадзенскі.

== Апошнімі днямі шмат гаворыцца і шырока камэнтуецца справа пераводу, на падставе меркаваньняў вышэйшых царкоўных уладаў, арх. Хвядоса з Віленск. Эпархіі. Даўно пара! Усё беларускае праваслаўнае насельніцтва Віл. Эпархіі факт гэты будзе доўга пам таць, бо з зьдзейсьненьнем яго, спыніць далейшую пастырскую работу арх. Хвядоса у Віл. Эпархіі, якая зьяўляецца „...крайне вредной по соображеніям церковной дисципліны и современнаго церковнаго строительства“. Вестку аб пераводзе гэтым падала вядомая расейская газэта „За Свабоду“ № 130 (3111).

== За месяц красавік і чэрвень у Прэзыд‘юме ЦБПК было 17 дэлегацыяў, з Эпарх. Віленскай 7, з Горадзенскай 6, з Пінскай 4. Мэтай прыбыцьця была справа закладзінаў мясцовых камітэтаў. З дакладаў дэлегатаў вынікае, што акцыя Беларусізацыі Царквы спатыкае сярод народу што раз болей прыхільнікаў. Варожасьць да Кансысторыяў даходзіць да апошніх межаў.

== Як Кансысторыя дбае аб справах сваіх „падданых“, сьведчыць усім сучасны стан могільніку праваслаўнага на Россах. Так, цэркаўка-магіла вядомага ахвярадаўцы Зайцава сяньня прадстаўляе развалiны, дзе знаходзяць сабе прыстанішча ўсялякія зьвяры.

## У Рэдакцыю Газэты „Сьветач Беларусі“.

Паважаны гр. Рэдактар! Не адмоўце надрукаваць у Вашай паважанай часопісі наступны ліст.

Хоць і не хацелася-б прасіць мейсца ў часопісі „Сьветач Беларусі“ дзеля свайго адказу бруднай часопісі „Наша Жизнь“, якая ў траўні м цы падрад у некалькіх нумарох зьмяшчала артыкулы адносна маей асобы, поўныя сьведамай ілжы і інсынуацыяў, але змушаны гэта зрабіць. Я заяўляю, што з гэткімі нягоднымі пісакамі гаварыць

аб праўдзівасьці зробленых мне закідаў ня зьбіраюся, таму што, справу гэтую скіраваў на судовую дарогу. Суд скажа аб іх праўдзівасьці. Што датычыць часопісі „Наша Жизнь“, якая нясуменна ілжэ і заўсягды інсынуацынуе, дык я, як ад газэткі брудна-бруковай, з агідай адварочываюся і палемізаваць з ёю ня буду. З часопісяй, якой мараль і этыка зьяўляюцца нейкай абстракцыяй, сапраўды трудна палемізаваць у кірунку ўсправядлівеньня зьмешчаных ёю брудаў.

14 траўня 1930 г.

З пашанай

Т. ВЕРНІКОЎСКІ.

## Адказы Ц. Б. П. К.

Вялейчанам. Справа склікańня зьезду ў Віленскім павеце стаіць на парадку дня. Закладзіны павятовага Камітэту Віленшчыны адбудуцца ў найбліжэйшых днях. Закіды вашыя Ц. Б. П. Камітэту зусім нясłушныя; гэтак выступіць радыкальна, як вы радзіце, сяньня, яшчэ ня хочам. Усё мае свой час. Пратэсты вашы супроць Кушнёвых, Марозавых і Тучэмскіх вышлем адпаведным уладам.

Прадстаўнікам прыходаў Куранецкага, Іжанскага, Крывіцкага, Рэчкаўскага, Сьпягельскага, Рабуньскага, Даўгінаўскага, Ільскага, Мільчанскага, Сватkaўскага і Кастыцкага. У справе сяброў Віл. Кансысторыі, якія сапраўды... зьдзекуюцца над беларусамі, нішчаць царкоўную гаспадарку, абдзіраюць непасільнымі паборамі цэрквы і духавенства, займаюць няпраўна па некалькі пасадаў і мы вам адкажам, як і другім—узмацняйце нашыя рады, пашырайце нашыя ідэі і тады расправа з імі будзе дзеяй хуткай. Пратэсты вашы скірованы належным органам.

Пінчуком. Дабярэмся, браточкі і да вас, дайце нам крыху ўзмацавацца. Бо справа з гэтымі „кацярэжнікамі“ ужо блізкая. За вашую працу і пажаданьні ідэі Ц. Б. П. К. шчыра дзякуем, папярайце і надалей.

Сьв. Сьв. А. Л., К. С., П. Т. і М. П. За пажаданьні дзякуем! Шчыра вас вітаем, як першых духоўнікаў Беларуска-Народу. Ахвяры вашай сяньня яшчэ ня трэба. Калі вы будзеце патрэбны нашай нацыянальнай справе, мы вас паведамім. Працуйце гэтак і надалей.

„Слонімскім байцом.“ За вашу адданасьць шчыра дзякуем, аднак бяз нашых загадаў не рабіце гэтага яшчэ сяньня. Зачакаемо крыху! „Дух байцовы“ узьнімайце і надалей.



Рэдактар З. ЗІМАВЕЦ. Выдавец: Цэнтр. Белар. Правасл. Камітэт.

Друк. У. Знамяроўскага, Вільня, Сьнеговы зав. 8. Надрукавана у друкарні „ZORZA“ Віленская 15.